или апартаменты с двумя спальнями. У нас на аренду уходило 1200 долларов в месяц. Недавно мы купили свой дом и переехали из Шарлотт в Ланкастер. Это уже в Южной Каролине, но относительно недалеко – как в Минске переехать из Зеленого Луга в Боровляны. Недвижимость здесь дешевле.

Кредит обходится нам почти в ту же сумму, какую мы платили за аренду, – 1290 долларов. Ставка на наш дом всего 2,89 процента, и это не какой-то льготный кредит. Его выдают при наличии первого платежа от 3,5 процента от стоимости жилья. А мы в Колодищах строили дом и в июле успели его продать. На первый взнос в США нам хватило.

За газовое отопление и электричество платим в среднем 100–120 долларов в месяц. Вода – 50–60 долларов. Мобильная связь – 100 долларов за две линии: безлимит по звонкам и интернету.

Мы живем в «одноэтажной Америке». Большие расстояния, поэтому все время на машине. Бензин дешевый: цена за галлон (почти 4 литра) – 2 доллара. То есть 1 литр стоит 50 центов. На две машины уходит долларов 150 в месяц.

Автомобили здесь тоже намного дешевле, чем в Беларуси. Первую машину мы купили сразу после переезда у небольшого дилера. Все остальные приобретали на специальных аукционах. За два года сменили четыре или пять машин.

Если у американца в машине даже немного побит бампер, а страховка покрывает всю стоимость авто, то ему проще продать машину на аукционе, чем возиться с ремонтом. Поэтому продается много хороших автомобилей. Страховка на две машины нам обходится в 100 долларов.

Отдельная статья расходов – медицинская страховка. В прошлом году моя страховка стоила 60 долларов в месяц. У Максима была от работы: платил за нее долларов 20. После того как муж сменил работу и я добавилась в его страховку, она возросла до 300 долларов.

У детей страховка бесплатная, потому что пока у нас низкий доход. Как бы ни ругали капиталистическую Америку, но здесь ощутимая господдержка для малоимущих. Когда зарплата повышается до определенного уровня, бесплатную страховку отключают.

На еду уходит примерно 700–800 долларов. Есть разные магазины. Нам нравится сеть Lidl – хорошее качество и европейские продукты. Можно найти магазины с нашими продуктами: без гречки и глазированных сырков не остались. Жаль, нет хлеба «Маг» с семечками, мне его не хватает.

Практически все детские сады тут частные. Чем младше ребенок, тем дороже. Обойдутся от 1000 до 1200 долларов в месяц. То есть стоимость садика – это практически стоимость жилья. Поэтому если рождается ребенок, а у мамы не очень высокая зарплата, то проще быть дома, тем более если ребенка два. Поэтому здесь часто рожают погодков.

Когда мы только переехали, то укладывались в 2700 долларов. Сейчас наши расходы возросли. Постепенно растут и доходы. Даже сейчас у нас достаточно комфортная жизнь. И мы стараемся развиваться, чтобы реализовать себя профессионально и выйти на еще более высокий уровень. Все, кто говорил: «Вы там никому не нужны, будете мыть пол в «Макдональдсе», – теперь спрашивают, как заполнить Green Card.

## «Многие мигранты, приехав, не могут сразу реализовать себя в профессии и начинают жаловаться на Америку»

**– Какие впечатления после двух с половиной лет жизни в Америке?**

– Эмиграция – это сложный процесс. Ты уехал из зоны комфорта и практически начинаешь жизнь заново. Если тебе не хватает английского, то профессионально начинаешь на несколько уровней ниже.

Я очень хочу попасть в отдел маркетинга крупной компании, но пока дальше первого круга собеседований я не проходила. Это бьет по самолюбию. С другой стороны, у нас не было больших ожиданий, мы были готовы начинать все с нуля.

Многие мигранты, приехав, не могут сразу реализовать себя в профессии и начинают жаловаться на Америку. Но я скажу, что для эмиграции тут многие процессы очень хорошо поставлены. Например, здесь нет автошкол. Главное – успешно показать свои навыки вождения на экзамене. Нам удалось получить права за первую неделю пребывания в США.

Мне нравится, что здесь 213 солнечных дней в году. Это хорошо влияет на настроение и самочувствие.

Американцы очень доброжелательные, всегда здороваются и улыбаются. Мне нравятся эти улыбки и small talks, хотя наши люди могут сказать, что они неискренние. Но это не так, американцы просто хорошо воспитаны.

Тут часто говорят комплименты и очень корректны в общении. Здесь не услышишь вопросов вроде «Когда собираешься рожать?» или «Какая у тебя зарплата?». На дорогах очень вежливы и соблюдают правила. Хорошо отлаженная безбарьерная среда.

Во время коронавируса государство делает всё возможное, чтобы минимизировать потери. В марте во время локдауна нам выплатили по 1200 долларов на каждого взрослого и по 500 на каждого ребенка. 1 января дали по 600 долларов каждому члену семьи и сейчас рассматривают возможности новых выплат.

## «После событий 2020 года мне часто пишут и говорят, что теперь лучше понимают мое решение эмигрировать из Беларуси»

**– Как ты переживаешь события в Беларуси?**

– Активно слежу за событиями, подписана на все каналы. Очень больно, меня просто разрывает! Вдвойне – оттого, что некоторые близкие не разделяют мою гражданскую позицию.

Есть и позитив: рада, что народ проснулся, начал понимать, в какой стране живет. Потому что даже для многих людей моего возраста такая жестокость со стороны государства была неожиданной. Но какую огромную цену пришлось заплатить обществу за это прозрение!

В США очень большая белорусская диаспора. Мы проводили встречи солидарности и организовали сбор средств. Обращались к сенаторам, чтобы утвердили Belarus Democracy Act. Я сначала писала сенаторам от Северной Каролины, а когда переехала, то и от Южной. И получила ответы на свои обращения.

Реакция на родине была разная – от одобрения до обиды. Некоторые знакомые писали: «Зачем вы из Америки лезете? Хотите обложить нас санкциями, нам от этого будет только хуже!» Но невозможно спокойно смотреть на то, что происходит в Беларуси!

Мы еще не граждане США, а постоянные резиденты. Но мы видим, что наши права соблюдаются. При необходимости мы можем отстаивать их в суде.

Здесь силовые структуры – это защита, а не источник опасности. Чувствую себя в безопасности, мне не страшно за себя и свою семью. После событий 2020 года мне часто пишут и говорят, что теперь лучше понимают мое решение эмигрировать из Беларуси.

Этим летом мы планировали прилететь на родину в гости, но сначала из-за ковида, а потом из-за политической ситуации изменили свое решение. Надеемся, что в следующий раз прилетим уже в новую, свободную Беларусь.

СІМВАЛЫ

# Што трэба ведаць пра Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг

*«Пагоні» больш за 700 гадоў. А бел-чырвона-белы сцяг узнік на яе аснове.*




Герб «Пагоня» – ваяр з узнятым мячом на белым кані ў чырвоным полі – вядомы ў Беларусі з глыбокай старажытнасці.

У якасці дзяржаўнага герба Вялікага Княства Літоўскага, старажытнай беларускай дзяржавы, яе пачаў выкарыстоўваць вялікі князь Віцень напрыканцы XIII стагоддзя.

*«Віцень нача княжыці над Літвою ізмыслі сабе герб і ўсяму княству Літоўскаму пячаць: рыцэр збройны на кане з мячэм, ежэ ныне нарычут Пагоня»*, – піша Густынаўскі летапіс.

Чаму «Пагоня»? Так называўся высакародны звычай, пашыраны ў нашых землях.



Пячатка Вітаўта Вялікага, 1385 год.



Пячатка князёў Кобрынскіх, 1387 год.

У выпадку раптоўнага нападу ворагаў – вось наляцелі чужынцы, схапілі каштоўныя рэчы і дзяцей у палон – усе мужчыны, якія маглі трымаць зброю, сядалі на коней і пераследавалі захопнікаў, каб вызваліць забраных суайчыннікаў.

У часы вялікага князя Ягайлы (XIV ст.) на шчыце «Пагоні» з'явіўся шасціканцовы крыж – знак венгерскіх каралёў. Адбылося гэта пасля таго, як вялікі князь ажаніўся з Ядзвігай, польскай каралеўнай венгерскага паходжання. Знак той нагадваў здаўна вядомы нашым продкам Ярылаў крыж – сімвал бога сонца і ўрадлівасці.



Прыгажэнная Пагоня з гербоўніка 1575 года.

Царква надала «Пагоні» іншую сімволіку: святары былі схільны лічыць яе выявай Святога Юр'я, нябеснага апекуна Беларусі.

Выявай «Пагоні» ўпрыгожаны ўсе дзяржаўныя дакументы тагачаснай Беларусі, старонкі «Літоўскай Метрыкі» і «Статутаў».



Выява Пагоні на Статуце (канстытуцыі) ВКЛ 1588 года.

«Пагоня» была на сцягах беларуска-літоўскага войска ва ўсіх вырашальных бітвах тых часоў – ад Грунвальда да Оршы.

Пасля Люблінскай уніі «Пагоня» нароўні з польскім белым арлом змяшчалася на гербе Рэчы Паспалітай і на каралеўскім сцягу.

## Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!

Нават пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у XVIII стагоддзі, калі Беларусь трапіла пад уладу Расіі, «Пагоня» засталася гербам беларускіх губерняў.

Яна трапіла на значкі расійскіх войскаў, размешчаных у Беларусі (напрыклад, Гродзенскага гусарскага), і нават на герб Расійскай імперыі.

Пячатку з «Пагоняй» меў і Кастусь Каліноўскі – кіраўнік паўстання 1863 года.

На пачатку ХХ стагоддзя класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч прысвяціў старажытнаму гербу пранікнёны патрыятычны верш:

*Усё лятуць і лятуць тыя коні,*
*Срэбнай збруяй далёка грымяць…*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!*

## Новы канон «Пагоні»

У 1918-м «Пагоня» стала дзяржаўным гербам Беларускай Народнай Рэспублікі – першай незалежнай беларускай дзяржавы новага часу.

Калі напрыканцы 1980-х разгарнулася барацьба за незалежнасць Беларусі, «Пагоня» з'явілася каля лагатыпаў падпольных улётак і першых незалежных газет. Харугвы з ёй неслі на чале шэсцяў. З'явіліся новыя карціны па яе матывах і песні пра яе.

З аднаўленнем незалежнасці ў 1991-м «Пагоня» зноў набыла дзяржаўны статус.

Выдатныя мастакі Яўген Кулік, Уладзімір Крукоўскі і Леў Талбузін выпрацавалі для яе новы канон. Яны надалі шасціканцоваму крыжу на шчыце выгляд крыжа Еўфрасінні Полацкай, святой заступніцы Беларусі. На «Пагоні» прысягала беларускае войска. Яна ўпрыгожвала тэкст Канстытуцыі і трыбуну, на якой прысягаў прэзідэнт.



Эталон дзяржаўнага герба 1991–1995 гадоў.

## Рэнегаты

Аднак у 1995-м Аляксандр Лукашэнка, каб атрымаць падтрымку і грошы Расіі, узяў курс на русіфікацыю. У атмасферы застрашвання быў абвешчаны «рэферэндум». Сярод пытанняў былі змена дзяржаўнай сімволікі і ўвядзенне рускай мовы ў якасці дзяржаўнай.

Каб матываваць гэтую змену, прапаганда карысталася беспардоннымі фальсіфікацыямі.

Рэжысёр Юрый Азаронак (цяпер яго-ны сын працуе на СТБ) зняў фільм «Дзеці хлусні», у якім даводзіў, што «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг… фашысцкія, на той падставе, што беларусы іх выкарыстоўвалі ў часы нямецкай акупацыі. Пра тое, што «Пагоня» стагоддзямі існавала перад той вайной, фільм змоўчваў. Як і тое, што пад акупацыяй свае нацыянальныя сцягі вымушана выкарыстоўвалі ўсе: ад французаў да арміі Уласава. Якое супадзенне: Беларусь адзіная адраклася ад нацыянальнай сімволікі і ператварылася ў адну з самых бедных краін Усходняй Еўропы з нізкімі заробкамі.

Зрэшты, па заробках беларусаў пачынаюць абганяць нават краіны Балкан, напрыклад, Румынія і Балгарыя ўжо апярэдзілі.

Адказ прапагандыстам, якія спрабуюць называць «Пагоню» і БЧБ калабаранцкімі сімваламі, добра ў свой час сфармуляваў Васіль Быкаў: «Калі Гітлер насіў штаны, то нам без штаноў хадзіць?»

Немцы, шведы, украінцы, літоўцы – усе трымаюцца сваёй нацыянальнай сімволікі і будуюць нацыянальныя дзяржавы. Ва ўсёй Еўропе толькі Беларусь пагналася за халяўнымі расійскімі грашыма.

Гэта, бадай, самая ганебная пагоня ў беларускай гісторыі.

Але гістарычнае значэнне «Пагоні» такое, што сцерці яе з памяці не ўдалося. Як і бел-чырвона-белы сцяг.

## Бел-чырвона-белы сцяг

«Пагоня» сягае каранямі ў сівую даўніну, а вось нацыянальны сцяг быў кадыфікаваны адносна нядаўна. Беларусы здаўна шанавалі спалучэнне белага і чырвонага колераў.

На карціне XVI ст. «Бітва пад Оршай» пікі вояроў ВКЛ упрыгожваюць сцяжкі з выявай чырвонага крыжа на белым полі – крыжа Святога Юр'я.

Чаргаванне белых і чырвоных палос можна бачыць і на сцягах каралёў Рэчы Паспалітай. У хрысціянскай сімволіцы чырвоны пас (або крыж) на белым полі сімвалізаваў кроў Хрыста.

Аднак бел-чырвона-белы сцяг у сённяшнім выглядзе, у адрозненне ад «Пагоні», мае канкрэтнага аўтара.

Сцяг стварыў у 1917 годзе Клаўдзій Дуж-Душэўскі.

Да яго, маладога архітэктара, студэнта Пецярбурскага горнага інстытута і актыўнага грамадскага дзеяча, з просьбай зрабіць эскіз нацыянальнага сцяга звярнуліся беларускія арганізацыі Пецярбурга.

*«Беларусы* [даўней] *лічылі сваім дзяржаўным сцягам белую Пагоню на чырвоным полі"*, – пісаў ва ўспамінах Дуж-Душэўскі. Рух за незалежнасць хацеў стварыць сабе сцяг больш адрозны ад герба, як было ў іншых, дзяржаўных народаў.

## Усім да душы

Створаны Дуж-Душэўскім сцяг быў упершыню ўзняты ўвесну 1917 года на будынку Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Пецярбургу (Дуж-Душэўскі быў супрацоўнікам гэтага таварыства). А 12 сакавіка ў Мінску ўпершыню адбылося масавае свята – нацыянальны Дзень беларускага значка. Бел-чырвона-белыя значкі, кукарды і сцяжкі можна было пабачыць паўсюль на вуліцах.

Бел-чырвона-белую стужку ў 1917-м сталі насіць і вайскоўцы-беларусы на франтах Першай сусветнай вайны, каб пазнаваць сваіх. Дзякуючы франтавікам БЧБ і замацаваўся.

У снежні 1917 года ў Мінску падчас Усебеларускага з'езда, які мусіў вырашыць будучыню краіны пасля вайны, бел-чырвона-белы сцяг ужо аднадушна прызнаваўся нацыянальным сімвалам Беларусі. Ён усім адразу прыйшоўся да душы: светлы, зыркі і непаўторны.

Ён стаў дзяржаўным сцягам Беларускай Народнай Рэспублікі.

За саветамі ж сцяг быў забаронены. За яго выяву можна было страціць працу, а то і жыццё. Тады ж чырвоны пас на сцягу набыў новы сэнс – кроў патрыётаў, пралітая за айчыну.

Бел-чырвона-белыя сцягі ўздымаліся над калонамі людзей, якія ішлі ў Курапаты на Дзяды ў 1988 годзе – у дзень першай масавай акцыі за незалежнасць. Нацыянальны штандар быў дзяржаўным у 1991–1995 гадах, на ім прысягала войска, пад ім прымаліся законы і абіраўся першы прэзідэнт краіны. Пасля, як і «Пагоня», бел-чырвона-белы сцяг быў прададзены за лёгкія расійскія грошы.

## Міроны

Бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня» – сімвалы змагання беларусаў за свабоду. З нацыянальным сцягам звязана легендарная постаць Мірона – невядомага, які ўздымае сцягі на самых высокіх і небяспечных пунктах. «Міронам» ён падпісваўся ў цыдулках, прымацаваных да штандараў.

Парадаксальна, але ўлады таксама патроху пачыналі разумець, што гісторыю не сатрэш.

«Пагоня» вярнулася на герб Віцебскай вобласці. Для яе знайшлі і афіцыйнае вызначэнне – «гістарычны сімвал Беларусі».

Сцяг жа застаецца «незарэгістраванай сімволікай». 25 гадоў некаторыя палітыкі спрабавалі ўтаптаць яго ў бруд, здымаючы, рвучы на шматкі і загадваючы высцілаць нацыянальнай святыняй падлогі аўтазакаў.

Але падзеі 2020 года паказалі, якія сімвалы застаюцца мілыя сэрцу беларусаў, за пару тыдняў без усякага прымусу ўся краіна ўкрылася бел-чырвона-белымі сцягамі і знакамі.

Жнівень–лістапад 2020-га напоўнілі новым сэнсам і метафару пра «чырвоны пас на белым тле радзімы» – ізноў пралілася кроў патрыётаў.

Чырвона-зялёны сцяг прыдумалі сталіністы

Напрыканцы 1940-х Сталіну спатрэбілася стварыць сцягі саюзных рэспублік СССР, асабліва тых, якія былі членамі ААН. Яны былі выраблены на аснове сцяга савецкай імперыі.

Для сцяга БССР у якасці адметнасці выбралі беларускі народны арнамент.

Тады ў архівах знайшлі малюнак вышыўкі на ручніку, зроблены ў 1917-м сялянкай Матронай Маркевіч з в.Касцілішча Сенненскага раёна. Вышыўка называлася «Узыходзячае сонца». Мастак Гусеў падрыхтаваў праект на аснове гэтага малюнка з пэўнымі сімвалічнымі дадаткамі. Гэты сцяг і зацвердзілі ў 1951 годзе.

Герб БССР трохі даўнейшы. Ён быў прыняты ў 1927-м, таксама на аснове герба СССР. Спачатку на ім былі надпісы на чатырох дзяржаўных мовах: беларускай, рускай, польскай і ідыш. Але ў 1937-м польскую і ідыш прыбралі.

Такім чынам, гэты герб маладзейшы за «Пагоню» прынамсі на сем стагоддзяў, а сцяг – на 34 гады за бел-чырвона-белы.

## Прафанацыя сімволікі

Цяперашнія сцяг і герб распрацаваны на аснове савецкіх. З іх папрыбіралі толькі камуністычныя лозунгі. З лозунгамі даходзіла, дарэчы, да смешнага.

Так, указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 20 лістапада 1938 года быў удакладнены пераклад на беларускую мову дэвіза на гербе, ён стаў чытацца як «Пралетарыі ўсіх краін, **е**днайцеся!».

Як успамінаў тагачасны кіраўнік спраў Саўміна Яўген Калубовіч, ініцыяторкай змен, у тым ліку ўвядзення ў яго арфаграфічнай памылкі, была старшыня Вярхоўнага Савета БССР Надзея Грэкава.

Матывавала тым, што *«яна як сакратар ЦК часта падпісвае «дырэктывы» калгасам, што ўжо пара пачынаць «злучную кампанію для ската»; таму заклік «злучайцеся!» у дачыненні да пралетарыяту «неяк нядобра гучыць». А слова «яднайцеся» мусіла пісацца праз «е», каб падчас пераносаў не выйшла «яд-»…».*

Нагадаем, ад рук сталіністаў у Беларусі загінула каля 200 тысяч чалавек, а ўсяго праз рэпрэсіі прайшло 600 тысяч. Пра гэта трэба памятаць так жа свята, як і пра ахвяр гітлерызму.

БУДЕМ ЗНАКОМЫ!

# Вернет ли Виталий Жуковский былую славу БАТЭ?

## *У борисовской команды новый тренер. Что мы о нем знаем?*

После тринадцати чемпионств подряд борисовский БАТЭ два последних сезона до золота не дотягивается, довольствуясь всего лишь серебром.

Видимо, это и стало главной причиной того, что руководство клуба решило заменить главного тренера. Новым наставником БАТЭ стал **Виталий ЖУКОВСКИЙ**, который до этого 11 сезонов тренировал команду «Ислочь» из Минского района.



### Играл в БАТЭ

Футбольная карьера Виталия Жуковского только начиналась, когда он уже оказался в составе борисовского БАТЭ. У молодого игрока были неплохие перспективы, но судьба сложилась так, что из футбола пришлось уйти.

*«Помню, 30 декабря 2002 года тренировались в крытом футбольном манеже, столкнулся с двумя футболистами, которые упали мне на колено*, – рассказывал Виталий «Народной Воле». – *Дальше не очень удачная операция, нога начала отекать, и – прощай, футбольная карьера! Поверьте, было очень обидно, потому что футболом занимался практически с четырех лет, строил какие-то планы. Но бутсы пришлось повесить на гвоздь»*.

### С футбольного поля – на рынок

После травмы парень около года сидел дома, затем начал искать работу. Устроился в компанию, которая делала коробки для мороженого, но не сработался с руководством – резал правду-матку, не стесняясь.

После этого Виталий Жуковский поехал искать счастья в Минск. Работал грузчиком в мебельном магазине, затем друзья предложили место на строительном рынке в «Уручье».

*«Там из продавцов можно было собрать не самую плохую команду высшей лиги*, – говорит Виталий. – *Как оказалось, многие игроки после травм или те, кто закончил карьеру, шли работать именно туда. Все-таки центральный рынок, вся страна приезжала закупать стройматериалы. И, если у человека были хотя бы небольшая предпринимательская жилка и мозги, то он себя неплохо чувствовал. Через некоторое время у меня появились первые более-менее нормальные деньги, открыли с одним парнем свою «точку». Позже начали расширять бизнес.*

*Но, как говорят, сколько волка ни корми… Я снова начал играть в футбол на любительском уровне, в родных Михановичах собрали неплохую команду. Два года подряд выигрывали и Кубок Минского района, и чемпионат»*.

### Тренер в 24 года

Играть Виталию Жуковскому после травмы все-таки было сложно, поэтому он решил себя попробовать в тренерской работе. И уже в 2010 году его заметили и пригласили главным тренером в любительскую команду «Ислочь» из Минского района. В то время парню было всего 24 года.

В скором времени под его руководством «Ислочь» стала победителем области, неплохо выступила в региональном кубке страны. Заявились во вторую лигу, потом был, можно сказать, сенсационный выход в первую лигу.

А дальше впервые в истории белорусского футбола «Ислочь», обыграв команды из Франции, Словакии, Боснии и Герцеговины, прошла отборочный раунд Кубка Регионов УЕФА, а в финальном завоевала бронзовые медали!

А чуть позже команда оказалась в высшей лиге, и выступает там до сих пор.

### Скандальный сезон

Виталий Жуковский, наверное, до сих пор с ужасом вспоминает 2016 год. Тогда МВД сообщило, что *«представитель тренерского штаба и игроки клуба «Ислочь» подозреваются в получении незаконного вознаграждения в сумме 10 тысяч долларов США за проведение «договорного» матча с командой «Динамо-Брест»…»*

Жуковский очень переживал, но от журналистов не прятался.

*«Я вам честно скажу: когда впервые об этом услышал, у меня слезы в глазах стояли*, – признавался он. – *Силовики рассказывали о футболистах, которые сдавали матч, а мне плакать хотелось. Хотя сначала были сомнения, я понимал, что те могли и блефовать. Пришел в клуб, начал разговаривать с «фигурантами» дела. И, знаете, реакция у людей была такая, как будто и на самом деле ничего не произошло. Они были настолько уверены в своей безнаказанности!.. Клялись мне всем, что у них есть, – родными и близкими. Не каждый актер так сыграет на сцене, как играли они.*

*Но позже всё подтвердилось. Я потерял лидеров, надо было строить новый коллектив. Кстати, эти люди сами меня и просили, чтобы взял их в команду, и вот так они «отблагодарили» тренера за его доброту и понимание, за то, что дал шанс… Но у человека ведь на лбу не написано, что он негодяй"*.

### Новые перспективы

Пост главного тренера для Виталия Жуковского – это огромные перспективы и возможность по-настоящему проявить свои тренерские способности.

Кстати, Жуковский известен как очень импульсивный и эмоциональный тренер, который никогда не лезет за словом в карман. Отрытый человек с открытой душой. Будем надеяться, что и футбол у БАТЭ будет такой же искренний.

**Алесь СИВЫЙ.**

РЭЦЭНЗІЯ

# Папяровае сэрца паэта

**_Мікола Гілевіч, «Ню». Выбраныя вершы._** *Мінск, выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2020.*




Кожны, хто займаецца вершаскладаннем, ведае, што імпульсам для нараджэння паэтычнага твора можа паслужыць што заўгодна: імгненная асацыяцыя-згадка, выхапленае з выпадковай размовы слова, неадступная мелодыя... Але найперш – гэта сама мова. Менавіта з яе выпростваецца, нібыта з какану, мятлік лірычнага твора. Далей уступае ў справу прырода – яна вызначае, якімі адценнямі зайграюць у сонечных промнях крылцы, як будуць спалучацца фарбы і ці будзе гэтае дзіўнае стварэнне прыцягваць да сябе ўвагу.

З вялікім хваляваннем падступаеш штораз да кожнай новай кнігі ў сучаснай беларускай літпрасторы – са спадзяваннем, што вось нарэшце яно! На жаль, апошнім часам такія радасныя адкрыцці здараюцца ўсё радзей.

І ўсё ж калі-нікалі адбываюцца неспадзяванкі. Як у выпадку з кнігай, што напрыканцы мінулага года пабачыла свет дзякуючы выдаўцу Уладзіміру Сіўчыкаву. Аўтар – Мікола Гілевіч (адзін з псеўданімаў – Мікола Віч). Ёмістая, арыгінальная назва, што выклікае цэлы шэраг асацыяцый, – «Ню». На густоўна аформленай вокладцы – выява прыгожай дзяўчыны з доўгімі валасамі. Гэтая, а таксама іншыя жывапісныя работы мастака Аляксандра Ксёндзава ўдала аздобілі кнігу.

Знаўцы літаратуры, асабліва тыя, якія заспелі 1990-я, добра ведаюць аўтара і яго паэзію. Кожны панядзелак у Доме літаратара пад куратарствам галоўнага рэдактара часопіса «Першацвет» Алеся Масарэнкі збіралася моладзевая літаратурная тусоўка, дзе пачаткоўцы камунікавалі, вучыліся адзін у аднаго. Часам туды завітвалі пісьменнікі старэйшага пакалення, якія ўжо тады ўспрымаліся мэтрамі: Анатоль Сыс, Вітаўт Чаропка, Андрэй Федарэнка. Сустрэчы набывалі характар нефармальных імправізаваных творчых семінараў. Мікола Гілевіч артыстычна, натхнёна чытаў свае паэтычныя творы. Ён і сам з'яўляўся супрацоўнікам «Першацвета», рэдагаваў яго практычна да самага закрыцця на пачатку нулявых.

Творчая біяграфія Міколы Гілевіча без перабольшвання ўнікальная. «Ню» – гэта не першы ягоны зборнік. Калісьці ў «Першацвеце» пабачыла свет дэбютная «кніга ў нумары» пад назвай «Горад», дзе ён паўстаў перад чытачом ужо цалкам сфарміраваным творцам. У прадмове да зборніка Андрэй Федарэнка адзначыў адукаванасць паэта, неардынарнасць яго асобы, урбаністычную скіраванасць творчасці: «*Філасафічнасць, арыгінальнасць пры выдатнай тэхніцы вершаскладання… моцная мастацкая інтуіцыя…*» І не дзіўна – з пісьменніцкай сям'і, начытаны, эрудзіраваны, прафесійны перакладчык з англійскай, ён ужо тады меў выключнае адчуванне слова, валодаў выдатным літаратурным густам.

З таго часу прамінула больш за два дзесяцігоддзі. Мікола Гілевіч цалкам прысвяціў сябе журналісцкай працы. З-пад яго пяра выйшлі сотні культуралагічных, краязнаўчых артыкулаў, журналісцкіх даследаванняў, інтэрв'ю, перакладаў. Матэрыялы ў «Настаўніцкай газеце», падпісаныя псеўданімам Мікола Чэмер, заўжды выклікалі цікавасць, былі своеасаблівымі візітоўкамі выдання. На жаль, сённяшнім чыноўнікам ад Мінадукацыі замінаюць сумленныя і дасведчаныя – у пашане здольнасць выслужыцца, апынуцца ў патрэбны час у патрэбным месцы. «Служить бы рад, прислуживаться тошно…» – усе мы памятаем крылаты выраз Чацкага. У выніку люзаблюды ад журналістыкі літаральна выпхнулі Міколу Гілевіча з выдання, якому ён аддаў лепшыя духоўныя і інтэлектуальныя сілы.

І ўвесь гэты час дзесьці там, у глыбіні, у зацятай унутранай эміграцыі, затоена і адасоблена ад тлумнага наваколля жыў Паэт. Магчыма, толькі нешматлікія сябры ведалі, што Мікола ніколі не кідаў пісаць вершы. Падобна, нейкая ўнутраная сціпласць замінала яму прэзентаваць свае творы – вельмі рэдка з'яўляліся падборкі ў перыёдыцы.

Калісьці ён напісаў: «*Дзе была паэзія – там яе няма…*» Падаецца, што новы зборнік – спроба абвергнуць гэтае выказванне, даказаць чытачам, а найперш самому сабе, што сапраўдная паэзія не знікае, яна толькі пераходзіць у іншыя іпастасі, а зменлівы час напаўняе яе нечаканымі вобразамі і сэнсамі.

Ёсць у яго радкі, у якіх па сутнасці закладзена не толькі творчае крэда, але і аўтарскі мастацкі метад:

*Я вывернуў вочы свае навыварат.*
*Я паглядзеў унутр.*

Шукайце – не знойдзеце ў творчасці Міколы Гілевіча бравурнасці і аптымізму. Ён успрымае рэчаіснасць праз прызму трывожных прадчуванняў, асуджанасці на смутак, настальгію:

*Зачарпну вады я, а дастану месяц.*
*Зазірну я ў студню, а пабачу змрок…*

Менавіта такое алегарычнае ўспрыняцце ўласнай душы – як бяздоннай цёмнай студні, дзе хаваюцца пачвары і здані, – суправаджае аўтара цягам усяго зборніка. Лірычны герой нібыта спрабуе выблытацца з павуціння навязлівых думак і нядобрых знакаў. І адначасова ён не прымае кампрамісаў:

*Паэзію трэба слухаць поўсцю,*
*прымаць або не прымаць зусім.*
*Іначай яна адпомсціць*
*табе і вакол усім.*

Мастацкі сусвет Міколы Гілевіча абарочваецца вакол дзвюх асноўных тэм: Эрас і Танатас, каханне і смерць. («*Паўтараюся ў тэмах. А тэмы – нібы гематомы»*). Назва кнігі набывае цікавую канатацыю не толькі ў эратычным ключы ці ў значэнні «распранутасці», крайняй ступені адкрытасці душы, але і як метафара чалавечай адзіноты ад нараджэння да скону. Для многіх вершаў характэрны матыў закальцаванасці быцця, а шмат якія радкі па вобразнасці могуць прэтэндаваць на афарыстычнасць: *«Пачынаецца ўсё з пясочніцы і заканчваецца ўсё пяском…»; «Жыццё пражыць – згубіць вясло ў трысці…»*.

Архітэктоніка зборніка выбудавана вакол трыадзінства, якое сімвалізуюць тры грацыі, тры каханыя ў жыцці аўтара. Гранічна шчыры лірычны герой чакае гэткай жа шчырасці і ад абранніцы. Жанчына для аўтара – не толькі Муза, праз сваё пачуццё ён спасцігае таямніцы светабудовы.

*Нашае каханне – беларуская*
*Саграда Фамілія,*
*Я – твой Гаўдзі. Ты – мая*
*Каталонія.*
*Я любіў усе твае шчылінкі.*
*Ты кахала мяне, мной палоненая.*

Нягледзячы на відавочную абазнанасць аўтара ў сусветнай літаратуры і бездакорнае валоданне лірычнымі формамі, Мікола Гілевіч – творца выключна стыхійны. Яму часам цяжка кантраляваць свае эмацыйныя зрухі, што яскрава бачна па радках, якія нібыта выцякаюць наўпрост з душы. У паэзіі ён дазваляе сабе ўсё, таму шмат якія радкі ў зборніку сваёй эпатажнасцю здольныя шакіраваць, вывесці чытача з раўнавагі. Адплата за гэта – немінучая:

*Так і жывеш з душою разарванай,*
*ужо не чалавек, яшчэ паэт.*

Нельга ўвесь час жыць у напятым стане. Але інакш існая паэзія і не ствараецца. Мо таму паэты часам і прыдумляюць гэткае «суіцыдапрагнае каханне», неўсвядомлена даводзяць сябе да крайняй ступені нервовага і псіхалагічнага знясільвання, каб, стоячы на мяжы, прамовіць:

*Я –*
*паміж*
*мужчынам і жанчынай –*
*адчуваю болей, чым яны…*

Агаломшаны амбівалентнасцю, бязлітаснасцю быцця, якое ён успрымае як «*суцэльнае гета без магчымасці выкупіцца*», аўтар адчайдушна ўсклікае:

*Папяровае маё сэрца,*
*ты адкуль, ты адкуль,*
*ты адкуль?*

Нездарма кажуць, што паэзія – гэта стан душы. Менавіта душы, а не розуму. Немагчыма стварыць неардынарны верш, кіруючыся адно інтэлектам, – вопытнае чытацкае вока заўжды прыкмеціць падман. Не выратуюць ні алітэрацыі і алюзіі, ні выкшталцоныя рыфмы, ні слоўная эквілібрыстыка. Мятлік не вылузнецца з кокану і загіне ў зародку.

«Ню» Міколы Гілевіча – сапраўды адметная з'ява ў сучаснай беларускай паэзіі, якая ў чарговы раз засведчыла, што дзеля таго, каб застацца ў літаратуры, не трэба штогод выдаваць па зборніку. А Паэт, аднойчы з'явіўшыся на свет, ужо не знікне – абавязкова адродзіцца з попелу.

**Янка ЛАЙКОЎ.**

ШАШКІ

### Знаёмства

Актыўны карэспандэнт нашай рубрыкі **Анатоль Панчанка** прапануе пазнаёміцца з творамі расійскага кампазітара **Рушана Валеева**. Рушан не выканаў у афіцыйных спаборніцтвах звання майстра па шашачнай кампазіцыі, але, пазнаёміўшыся з яго творамі, вы пераканаецеся, што ён сапраўдны майстар.



№1 *(гл.дыяграму)* **Белыя:** a1, e1, f2, h2, c3, f6 (6).
**Чорныя:** b2, f4, h4, d6, h6, b8 (6)
e3(f2), c7, b2(c5), c3(g5) g7(f4), h8(e3), hd4(b4), g1, g3, c1 x.

№2 **Белыя:** c1, h2, c3, h4, c5, g5 (6).
**Чорныя:** a3, f6, h6, a7, e7, b8 (6)
d6(c5), e7(b4, b6, f8), g3(e7A), b2, f4, d8 x. A(g7), b2, f4, h8 x.

№3 **Белыя:** a3, g3, b4, d4, h4, g5 (6).
**Чорныя:** b6, d6, c7, g7, f8, h8 (6).
bc5, a7(b6, f6), e7, g5(g7A), h6(f6), f4(g5), g7, h8 x. A(a3), h6(b2), f4(a1), fe5(b2), f6, f8 x.

№4 **Белыя:** c1, g1, b2, d2, e3, d4 (6).
**Чорныя:** g3, b4, b6, a7, c7, f8 (6).
e5(f2), f6, e7, bc3, e7(d6), c5, e3, e3 x.

№5 **Белыя:** c1, g1, b2, h2, a3, f4, h4, g5, f6 (9).
**Чорныя:** d4, b6, d6, h6, c7, g7, d8, h8 (8).
b4, f2, c5, c3(b2), a7(b6, c7), fg3(e3), f4, g3(g7), f2(f6), e3(d6A), e7, h4(f4, e7), f6, f6 x. A(e5), d6(h4), b8, f4(c3), c1 x.

№6 **Белыя:** g1, b2, a3, c3, g3, b4, h4, g5, h6 (9).
**Чорныя:** a5, e5, b6, d6, f6, a7, e7, b8 (8).
f4, f2, g7(f6, d6), c5(d2), g3, c1(b4), c5, c3, a3 x.

Кампазіцыі пастаяннага аўтара **Генадзя Андрэева** рашыце самастойна.

№7 **Белыя:** a1, b4, c5, d2, d4, e1, e3, f6, h4 (9).
**Чорныя:** a7, b6, b8, d6, d8, e7, f4, g5, h2, h8 (10).

№8 **Белыя:** b6, c7, e1, e5, g3, h4 (6).
**Чорныя:** a5, b8, d6, e7, f4, g7 (6).

### Вядомы майстар прапануе

**Вадзім Булат**, майстар гульні і кампазіцыі, вядомы не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі, спецыяльна для нашай рубрыкі прапануе наступную 100-клетачную праблему. Рашыце яе самастойна.



№9 *(гл.дыяграму)* **Белыя:** 11, 16, 21, 40, 41, 43, 45, 49, 50 (9).
**Чорныя:** 19, 20, 27, 29, 30, 31, 32, 38, 42 (9).

Таксама прапануем рашыць самастойна дзве кампазіцыі нашага пастаяннага ўкраінскага аўтара **Анатоля Баланюка**.

№9 **Белыя:** 18, 19, 23, 38, 42, 43, 45 (7).
**Чорныя:** 27, 29, 32, 34, 35, 39, 40 (7).

№10 **Белыя:** 14, 18, 20, 22, 38, 42, 43 (7).
**Чорныя:** 25, 27, 29, 31, 33, 37 (6).

### Складаны жанр

Другі ўкраінскі майстар – **Уладзімір Рычка** – прапануе сваю новую задачу на замыканне шашкі чорных.

№11 **Белыя:** шашкі 8, 12, 21, 22, 23, 28, дамкі 1, 29, 33, 35 (10).
**Чорныя:** шашкі 3, 11, 14, 17, дамка 26 (5).
23-19(34A), 39, 12-7!, 8, 48, 26 [17]. A(32), 35-40, 17, 2, 9, 20, 6, 35, 40, 50 [45].

Свой твор гэтага складанага жанру на такое ж заданне прапануе і мінскі майстар **Іван Наўроцкі**.

№12 **Белыя:** шашкі 10, 13, 27, 37, дамкі 4, 16 (6).
**Чорныя:** шашкі 5, 12, 23, 28, 30, 34, 35, 38, дамка 48 (9).
16-21, 40(44A), 14 [5]. A(14), 44 [35].

### Супаставім рашэнні

"Народная Воля" за 8 снежня 2020 года.

**№1** – 40, 13, 4 x.
**№2** – 13, 8, 22, 2 x.
**№3** – 11, 24-19, 20, 7, 2 x.
**№4** – 23-19, 17, 2(12), 17, 39 x.
**№5** – 18, 23, 2, 7, 40, 20, 7 x.
**№6** – 29-23, 3, 20 x.
**№7** – 44, 39-33, 2, 37, 17-11 x.
**№8** – 31, 7, 38, 3, 5 x.
**№9** – e5, d8, f4, g1 x.
**№10** – g5(h6:f4), c3, d8, h6 x.
**№11** – d8, d6, d4, b6 x.
**№12** – c3, d6, cd2, de3 x.

Адказы даслалі **Эдуард Дамброўскі**, **Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Леанід Жыхар**, **Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Сяргей Бурко** (Орша). Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Свае лісты дасылайце на адрас рэдакцыі ***(220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а, "Шашкі")*** або на электронны адрас ***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА, міжнародны майстар спорту.**

СТОП-КРАН

# Мінус яшчэ адзін чэмпіянат

Першынство свету па сучасным пяцібор'і, якое павінна было прайсці 7–13 чэрвеня гэтага года, у Мінску не адбудзецца.

Міжнародны саюз сучаснага пяцібор'я паведаміў, што ён *"уважліва сачыў за развіццём падзей у Беларусі ў апошнія месяцы і ацэньваў, ці магчыма правесці чэмпіянат свету ў Мінску"*.

У выніку выканкам прагаласаваў за перанос спаборніцтваў з беларускай сталіцы *"з-за росту занепакоенасці, што цяперашняя нестабільнасць у Беларусі можа паставіць пад пагрозу паспяховае правядзенне першынства"*.

Чэмпіянат свету пройдзе ў тыя ж даты, але ў іншым месцы, якое будзе вызначана пазней.

Нагадаем, што раней Мінск пазбавіўся права на правядзенне чэмпіянату свету па хакеі 2021 года. За адмену спаборніцтваў выступіў Беларускі фонд спартыўнай салідарнасці.

**Віктар ШПАК.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ